**№ 76(658)**

Пятніца, 30 красавіка 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



# З майскімі святамі Вас, шаноўныя сябры! Жыве вольная, незалежная Беларусь!

## Слуханні па беларускім пытанні ў межах Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, якія завяршыліся ў Страсбургу, будуць мець працяг

Пасля таго, як на працягу паўтарагадзіннай дыскусіі абедзве беларускія дэлегацыі — Вярхоўнага Савета 13-га склікання і Нацыянальнага сходу — выклалі сваё бачанне сітуацыі ў краіне і адказалі на пытанні членаў Паліткамітэта, старшынствуючы Віктор Руфі заявіў: "Пазіцыі бакоў высветлены, цяпер трэба ехаць у Рэспубліку Беларусь і вывучаць там сітуацыю на месцы". Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН адзін з членаў дэлегацыі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання — Сяргей Калякін — удзельнікі дыскусіі ў асноўным гаварылі пра тое, што Беларусь, статус якой як спецыяльна запрошанага быў прыпынены яшчэ 13 студзеня 1997 года, трэба прымаць у адзіную еўрапейскую сям'ю. Аднак для гэтага ў краіне павінны адбывацца пазітыўныя змены, наладжвацца дыялог паміж уладамі і апазіцыяй, чаго пакуль не назіраецца. У гэтых адносінах было паказальна пытанне, якое падчас дыскусіі задаў кіраўніку дэлегацыі Вярхоўнага Савета Анатолю Лябедзьку расійскі парламентарый Сяргей Глотаў: "Ці не лепш было бы, калі б улада і апазіцыя правялі дыялог у Мінску, а ў Страсбург прыехалі б ужо з адзінай пазіцыяй?" На што А.Лябедзька адказаў: "Безумоўна, так было бы лепш, але для гэтага трэба, каб улады далі нам хоць аднойчы хвілін 30 на Беларускім тэлебачанні. Аднак апазіцыя за тры гады такой магчымасці не атрымала і таму вымушана дыскусіраваць за межамі Рэспублікі Беларусь".

Абедзве беларускія дэлегацыі, каменціруючы вынікі слуханняў, сышліся па дзвюх пазіцыях. Па-першае, і Уладзімір Канаплёў, і Анатоль Лябедзька адзначылі, што дыскусія была вельмі вострай; па-другое, кожная з дэлегацый мяркуе, што менавіта яна зрабіла найлепшае ўражанне ў Страсбургу.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

## Падчас перамоў з дэлегацыяй Еўрасаюза прадстаўнікі беларускай апазіцыі заявілі, што гатовы да любога дыялогу з уладамі пры ўмове, калі ён будзе канструктыўным

Пытанні забеспячэння палітычнай стабільнасці ў Беларусі абмяркоўваліся на сустрэчы лідэраў беларускай апазіцыі з прадстаўнікамі Еўрапейскага Саюза, якая прайшла ў Мінску. З боку Еўрасаюза ў перамовах удзельнічалі прадстаўнік Аўстрыі — краіны, якая цяпер старшынствуе ў ЕС, Германіі — былога старшыніі Фінляндыі, якая будзе старшынстваваць у гэтай арганізацыі пасля Аўстрыі. Беларускі бок прадстаўлялі старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі, Станіслаў Багданкевіч, Алена Скрыган, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Статкевіч і Генадзь Быкаў.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН С.Шарэцкі паведаміў, што перамовы вяліся на прадмет магчымасці правядзення дыялогу апазіцыі і цяперашніх улад Беларусі. Паводле яго слоў, на перамовах з апазіцыяй, як і на сустрэчы з прадстаўнікамі ўладаў, члены дэлегацыі ЕС вызначылі некалькі ўмоў, пры якіх магчыма аднаўленне супрацоўніцтва Беларусі з Еўрасаюзам. Перш за ўсё у рэспубліцы не павінна быць ніякага насілля 16 мая — у дзень выбараў прэзідэнта краіны, прызначаных Вярхоўным Саветам. Акрамя таго, павінны быць вырашаны пытанні, звязаныя з утрыманнем пад вартай так званых "палітычных вязняў", і прадастаўлена магчымасць партыям і грамадскім арганізацыям для перарэгістрацыі.

Паводле слоў С.Шарэцкага, прадстаўнікі апазіцыі са свайго боку паабяцалі, што правядуць выбары прэзідэнта 16 мая ў поўнай адпаведнасці з законам. Што да Еўрасаюза, то, паколькі беларускія ўлады аб'явілі маючыя адбыцца выбары незаконнымі, афіцыйна прыслаць сваіх назіральнікаў ЕС не зможа. У той жа час, адзначыў спікер Вярхоўнага Савета, яго прадстаўнікі могуць прыехаць у Беларусь у якасці грамадскіх назіральнікаў.

"Еўропа выказвае неспакой, каб наша бяда не стала трагедыяй для Еўропы, як бяда югаслаўскіх албанцаў перарасла ў агульнаеўрапейскую трагедыю", — сказаў С.Шарэцкі. Паводле яго меркавання, апазіцыя сёння "гатова да любога дыялогу" з уладамі, але ён павінен быць канструктыўным. Акрамя таго, падкрэсліў спікер, прадстаўнікам апазіцыі павінна быць прадастаўлена магчымасць выступіць па тэлебачанні і радыё.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## 36 працэнтаў апытаных мінчан вызначылі дзеючы ў Беларусі рэжым як рэжым асабістай улады

Падчас чарговага зандзіравання грамадскай думкі мінчан, праведзенага 17—22 красавіка сацыялагічнай службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, 600 жыхарам беларускай сталіцы было прапанавана адказаць на пытанне "Як бы вы вызначылі палітычны рэжым, дзеючы цяпер у Беларусі?". Больш за трэцюю частку апытаных — 36 працэнтаў — вызначылі яго як "рэжым асабістай улады". 16 працэнтаў рэспандэнтаў назвалі дзеючы ў Беларусі палітычны рэжым "рыначным сацыялізмам", 12 працэнтаў — ваеннапаліцэйскім, а кожны дзесяты — 10 працэнтаў — дэмакратыяй. І чвэрць апытаных — 26 працэнтаў — не змаглі вызначыць цяпер дзеючае палітычнае ўладкаванне Беларусі.

**Эдуард КЛЮЕЎ, БелаПАН.**

## Сямён Шарэцкі запрашаецца на IV сесію дэпутацкага сходу Сейма Рэспублікі Польшча і Сейма Літоўскай Рэспублікі

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання запрошаны на IV сесію дэпутацкага сходу Сейма Рэспублікі Польшча і Сейма Літоўскай Рэспублікі, які адбудзецца ў Кракаве 15—16 мая 1999 года.

Такі ліст нашаму спікеру накіраваў намеснік маршала сойму Рэспублікі Польшча. "Я глыбока перакананы, што Ваш удзел у сесіі будзе спрыяць больш цеснаму супрацоўніцтву паміж парламентам Вашай краіны і парламентамі Польшчы і Літвы. Ваш візіт стане таксама выдатнай магчымасцю абмяняцца поглядамі і абмеркаваць актуальныя справы нашых парламентаў і краін", — гаворыцца ў запрашэнні.

## Генадзь Грушавы — Ганаровы сябра "Вясны-96"

Рашэннем Савета Праваабарончага цэнтра "Вясна-96" Старшыня дабрачыннага фонда "Дзецям Чарнобыля" Г.У.Грушавы залічаны Ганаровым сябрам Праваабарончага цэнтра "Вясна-96".

Генадзь Уладзіміравіч стаў першым Ганаровым сябрам "Вясны-96". Пры прыняцці рашэння ўлічвалася шматгадовая дзейнасць Грушавога па абароне права дзяцей Беларусі на жыццё, ягоная стваральная дзейнасць па фарміраванні дабрачынных арганізацый, аказанні гуманітарнай дапамогі хворым дзецям. Улічвалася актыўная дзейнасць Грушавога па давядзенні інфармацыі да сусветнага грамадства пра пагрозу здароўю і жыццю беларускіх дзяцей.

**Савет Праваабарончага цэнтра "Вясна-96".**

## Надвор'е

У наступныя двое сутак па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 30-га месцамі, 1-га на большай частцы — дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +2...+7, па поўначы замаразкі да 0...-2; удзень — +11..+16; па паўднёвай палавіне да +20.



**Взгляд**

## Только и остается, что списывать свои прорехи на "врагов"

Послушать наши власти, так везде и всюду — внутри страны, за ее пределами и на наших священных границах — так и кишат неисчислимые полчища врагов. НАТО продвигается на восток, принимая в свой альянс новых членов из числа бывших социалистических стран — караул! Соседняя с Беларусью Польша, оказывается, проводит недружественную нам политику, а многие наши граждане, которые не осуждают ее за "натовские поползновения", — конечно же, не патриоты и сами едва ли не враги... Высказывает все больше людей недовольство беспросветной и усиливающейся нищетой жизни — это враги, их будоражат БНФ, "дерьмократы" там всякие, экстремисты-националисты... Словом, шагу не ступишь, как "наткнешься" на них, на кого зоркое руководство показывает. Надо же — никак не устанут дудеть в свою фальшивую дуду "музыканты" из президентских газет, радио и телевидения — как та радиоведущая Чайка, уже не раз пугавшая меня "кознями империалистов".

Да ведь сколько б ни плели несусветицы — разве непонятно, ради чего это делается? Само собой, для того, чтобы отвлечь голодный народ от острых и насущных проблем внутри страны, все больше погружающейся в пучину экономического краха, списать на "врагов" свои "руководящие" прорехи? Уже и на этом самом президентском радио вынуждены заговорить о "преодолении кризиса", а ведь совсем еще недавно были исключительно "стабильность" и "процветание". Неужели забыли? Правда, зато не забывают сталкивать лбами меж собой разные группы населения, разжигать гражданскую рознь... А ведь так могут поступать действительно только настоящие враги народа, которым не дороги его покой, достаток, мир.

...Хотел дозвониться до одного из "радиомостов", с которого лилась всякая околесица, но ничего не вышло: видимо, там принимают звонки только одного, определенного содержания.

С уважением

**Микола РУДАВСКИЙ. Несвижский район.**

**Открытым текстом**

## Хватит дурачить людей. Президента мы выбирали на пять лет, а не на семь

Прошло более двух лет со дня проведения референдума, который состоялся 24 ноября 1996 года. Однако страсти вокруг его итогов, в частности, в отношении новой Конституции, до сих пор не утихают. Наиболее широко эта тема стала обсуждаться после того, как депутаты Верховного Совета 13-го созыва объявили о своем намерении провести 16 мая 1999 года выборы президента Республики Беларусь, срок полномочий которого, согласно Конституции 1994 года, истекает 20 июля 1999 года.

То, что депутаты Верховного Совета 13-го созыва правомочны, юридически четко доказал депутат А.Лебедько в статье, опубликованной в "Народной воле" (13 февраля). Опровержений этой статьи в государственных средствах массовой информации не последовало. Значит, все согласны. Зачем же тогда поднимать "шумиху" относительно того, что намеченные выборы президента являются "призывом к захвату власти"! О каком захвате власти может идти речь?

Депутаты Верховного Совета приняли решение в соответствии с Конституцией. Президента А.Лукашенко никто не лишал права выставить свою кандидатуру на второй срок и, возможно, в честной борьбе победить.

Считаю также необходимым еще раз вернуться к событиям 24 ноября 1996 года и окончательно установить, набрала ли "президентская" Конституция необходимое количество голосов избирателей, чтобы считать ее легитимной.

В списки для тайного голосования было внесено 7.346.397 человек. Как же оно проходило во временном соотношении:

с 6.00 до 10.00 проголосовало 9,1% избирателей;

с 10.00 до 14.00 проголосовало 14%;

с 14.00 до 18.00 проголосовало 13,9%.

Всего к 18.00, с учетом 20%, проголосовавших досрочно, приняло участие в голосовании 57 процентов граждан Республики Беларусь.

По данным Центризбиркома, с 18.00 до 22.00 проголосовало 27,14%. Возникает вопрос, а были ли в действительности после 18.00 эти 27,14% граждан? Разве возможно согласиться с тем, что за четыре вечерних часа проголосовало столько же избирателей, сколь за все 8 предыдущих дневных часов? Очевидно, что такого быть не могло. Тут, как в народе говорят, и ежу понятно! А вот отдельные журналисты государственных средств массовой информации об этом — ни слова.

Цифра 27,14 процента, считаю, целиком и полностью лежит на совести работников Центризбиркома и многих избирательных участков.

Приведенные выше данные свидетельствуют о том, что наибольшая активность процесса голосования приходится на время с 10 до 14 часов.

Во все времена проведения выборов всех уровней, а также в проведении майского референдума 1995 года на избирательные участки для голосования в вечернее время приходило не более 3—5% граждан. А если принять во внимание и то, что 24 ноября 1996 года была ненастная погода: шел дождь со снегом, дул сильный порывистый ветер и в 17.00 было уже темно — то даже и 5% много.

Итак, если даже на избирательные участки после 18.00 пришло 5% граждан, а не 27,14%, то общее количество граждан, принявших участие в референдуме, составит 62%, или 4.554.766 человек, а не 84,14%, как сообщалось Центризбиркомом.

А так как **против** "президентской" Конституции проголосовало 689.642 человека и 316.157 бюллетеней были признаны недействительными, то за "президентскую" Конституцию всего проголосовали 3.548.967 человек, что составляет менее 49%.

Документ, набравший менее 50% голосов, не может быть признан действующим.

Поэтому считаю, выборы президента должны состояться в 1999 году и действия Верховного Совета правомерны. Следует также добавить, что "президентская" Конституция выносилась не на обязательный референдум.

Социологические исследования показали, что за нее голосовали в большинстве своем пенсионеры и жители сельских районов, доверие которых в последнее время к президенту резко упало.

Следует отметить и то, что абсолютное большинство граждан (70—80%) не знали о том, что в "президентской" Конституции имеется статья, которая продлевает срок полномочий президента на 2,5 года. Это была тактическая уловка инициаторов референдума, на которую они в основном и рассчитывали. Хотелось бы на страницах газеты услышать ответы опытных юристов, допустима ли в Конституции такая статья и почему Верховный Совет 13-го созыва совершил такую оплошность. Не хватило опыта или юридических знаний?

Проголосовавшие "против", а также граждане, которые просто не пришли на избирательные участки для голосования, относятся к потенциальным противникам "президентской" Конституции. Вместе они представляют огромную силу, с которой нынешние власти обязаны считаться.

И еще. Для того, чтобы исключить фальсификацию итогов голосования при проведении референдумов, а также при избрании президента, необходимо, чтобы каждый бюллетень имел свой порядковый номер, выполненный типографским способом. Кроме того, в списках избирателей необходимо предусмотреть отдельные графы для записи паспортных данных избирателя, время выдачи бюллетеня и ряд других дополнений. Номера бюллетеней, проголосовавших "за" и "против", а также "невостребованных" после проведения выборов, через 3—4 дня следует публиковать в газетах. Это позволит осуществить самоконтроль.

**Леон СЫЧИК, житель Минска.**

*Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ*

## Народзе ты мой, народзе...

Кім ты быў?! Кім ты стаў?! Кім і чым ты будзеш, калі наогул будзеш?!

Пытанні, як іржавыя цвікі пад чэрапам. Дзе і ў чым ад іх паратунак?..

Мяркую, што адказ адзін — у вяртанні народу гістарычнай памяці, у вяртанні народа да сваёй гістарычнай памяці. Вернем памяць — вернецца да людзей і годнасць, і гонар, і самапавага, і, нарэшце, родная мова, без якой табе, мой народзе, наканавана забыццё і знікненне як нацыі, як народа, як этнасу. Толькі абуджаная і вызваленая ад хлусні гістарычная памяць дасць табе адказ на галоўнае пытанне: як і па чыёй злой волі ты стаў тым, чым ёсць сёння.

*(Артыкул Алеся Петрашкевіча "Народзе ты мой, народзе..." чытайце ў наступным нумары "Народнай волі".)*

**З красавіцкага сшытка**

*Ніл Гілевіч*

### Але тое, што ты...

*Паважаю*
*законнае права*
*на іншы пагляд*
*і лічуся з любою*
*сістэмай,*
*апроч людаедскай.*
*Ты сказаў, што табе*
*даспадобы парламенцкі лад?*
*Дык і мне ён таксама*
*найбольш дасканалым здаецца.*

*Ты — за ўладу манарха?*
*Ну, што ж, я не стану хваліць,*
*ды калі ён не цар без цара,*
*а кароль з галавою*
*і за гонар дзяржавы сваёй,*
*як за ўласны, стаіць, —*
*ну шануй, ну любі караля!*
*Бог і з ім і з табою!*

*Ты — наогул супроць*
*усялякай улады зусім?*
*"Дай анархію!"? Гэта —*
*дурнощце, прабач, і не болей.*

*Безуладдзе — бязладдзе,*
*дыктатар паўстане на ім*
*і свабоду тваю*
*зацугляе жалезнаю воляй.*

*Зрэшты, нават і гэткі твой выбар*
*магу зразумець*
*Так, усё зразумею,*
*і злосна папроку не кіну.*
*Але тое, што ты*
*у няволю, на згубу і смерць,*
*як халуй, аддаеш*
*сваю родную Маці-Краіну*

*ды яшчэ і ў далоні*
*ад радасці пляскаеш-б'еш, —*
*зразумець не магу.*
*Гэта нешта такое, што проста*
*не ўкладаецца ў думках.*
*Няйначай апошні рубеж —*
*пераступлены. Той,*
*за якім уладарыць звыродства.*

**1999**

### Ужо сам Бог сказаў

*На стыку двух вякоў*
*І двух тысячагоддзяў*
*Гісторыяй самой*
*Наканавана нам —*
*Згадаць наказ дзядоў*
*І, з воляй іх у згодзе,*
*Адбудаваць свой дом*
*І асвяціць свой храм.*

*За тысячу гадоў*
*Мы столькі крыўдаў знеслі,*
*Спазналі столькі бед,*
*Паклалі столькі страт,*
*Што ўжо сам Бог сказаў:*
*"Народзе! Уваскрэсні!*
*І перайнач жыццё*
*На свой уласны лад!"*

*Калі ж і гэты шанц*
*Упусцім мы бяздарна*
*І ў новы ступім век*
*Бязмоўнымі, як скот, —*
*"Няўжо, — спытае Бог,*
*І я браў слова марна?*
*Дык што ж за людзі вы?*
*І што вы за народ?"*

**1999**

### А дзеткі праўду знаюць?

*Ну што, таварышок? Ужо і ты*
*Да хэўры запраданцаў далучыўся?*
*Віншую! Вельмі ж хутка*
*навучыўся,*
*Сумленнем круцячы, рабіць фінты!*

*Як неўпрыкмет табе*
*не сорам стала*
*Душонку за тушонку прадаваць!*
*І гонар Маці Роднай дратаваць,*
*Што ўзгадавала і надзеі ўсклала.*

*Неверагодна! Бедны небарачак!*
*І што ж цябе перакруціла так?*
*Любоў к мундзіру?*
*Прагнасць да падачак?*
*Рашыў пажыць,*
*папіць-паесці ўсмак,*
*Пакуль вышэйшы пан уладу мае*
*І пры сабе за пса цябе трымае?*

*Ну-ну! Слугуй!*
*Старайся! Дагаджай!*
*Але скажы: ад Юды каравай,*
*Што ты ясі, — у роце не дзярэ?*
*Кавалкі ў горле не перасядаюць?*
*А дзеткам праўду кажаш?*
*Дзеткі знаюць,*
*За што іх татка*
*сытны харч бярэ?*
*Не знаюць? Ну, дазнаюцца яшчэ —*
*Ад дзетак слава бацькі не ўцячэ.*

**1999**

## 16 супрацьпяхотных асколачных мін канфіскаваны у кіраўніка саўгаса "Мышанскі" Петрыкаўскага раёна

Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у УКДБ, гаспадар дома не стаў адмаўляць, што міны прыналежаць яму. Ён патлумачыў, што знайшоў іх яшчэ ў 1997 годзе пры нарыхтоўцы гліны на лузе паблізу в.Мышанка і вырашыў схаваць, але не з мэтай продажу. 42-гадовы кіраўнік захоўваў іх у малочным бітоне ў хляве. Праўда, як лічаць спецыялісты-мінёры, гэты арсенал не ўяўляў небяспекі, паколькі ў мін не было ўзрывацеляў, а ў такім стане яны не могуць спрацаваць нават пры дэтанацыі. Па факце незаконнага захоўвання баяпрыпасаў узбуджана крымінальная справа па артыкуле 213, частка 1 КК РБ. Парушальнік затрыманы для разбору.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Дети, не доверяйте "странному дяде"

Очередное сообщение о необычной краже попало в милицейские сводки в Гродно. В середине рабочего дня в одну из квартир дома на площади Декабристов зашел незнакомец и вежливо попросил находившегося там 11-летнего подростка передать родителям деньги, которые он якобы брал у них в долг. При этом посоветовал положить их туда, "где папа и мама обычно хранят деньги". Ничего не подозревавший мальчуган так и сделал. После этого незнакомец попросил принести ему воды и, воспользовавшись моментом, забрал свои деньги, а заодно и лежавшие вместе с ними 510 долларов.

Как стало известно корреспонденту, за неполных полгода в приграничном областном центре зарегистрировано 17 аналогичных краж. Как считают работники правоохранительных органов, их совершил один и тот же преступник. Действует он всегда одинаково. Добычей мошенника стали не одна тысяча долларов и другой валюты, золотые изделия, прочие драгоценности. На основании рассказов очевидцев подготовлен фоторобот преступника, однако задержать его пока не удалось.

**Константин БОЛОТЕВИЧ.**

**Наступны нумар "Народнай волі" выйдзе ў аўторак, 4 мая.**

